


Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# рэгіянальная газета

15 лютага 2002 года
№ 7 (356)
Выходзіць па пятніцах

ТУ плюс

Навіны рэгіёна

## Дом культуры больш не будуюць

МАЛАДЗЕЧНА. Сёлета будаўніцтва гарадскога Дома культуры не будзе фінансавацца. Работы спыненыя, амаль усе будаўнікі ў адпачынку. Засталася запазычанасць заказчыка перад падрадчыкам у 150 мільёнаў рублёў.

Як расказаў намеснік старшыні гарвыканкома па будаўніцтве **Мікалай Воранаў**, пратакол даручэнняў прэзідэнта, складзены па выніках паездкі ў Маладзечна 8 чэрвеня 2001 года, не выконваецца. На будаўніцтва СШ №14, што ў 6-м мікрараёне, аблвыканком павінен быў быў выдзеліць 2 міл'ярды рублёў, а атрымалі толькі 657 мільёнаў. На Дом культуры абяцалі 2,5 мільярда рублёў, а ў выніку – 863,7 мільёна. Такім чынам, у гэтым годзе наўрад ці дачакаемся адкрыцця школы. Вось і 11 лютага з запланаваных 450 мільёнаў рублёў атрымалі 100.

**Вольга ПІЛІПЕНКА.**

## Новыя старшыні ў выканкомах

12 лютага дэпутаты Маладзечанскага і Валожынскага райсаветаў зацвердзілі старшыняў сваіх райвыканкомаў.

У Маладзечне гэта 50-гадовы **Сямён Касабуцкі**. Сюды ён прыехаў са Стаўбцоўскага раёна, дзе апошнія 13 з лішнім год адпрацаваў старшынёй калгаса імя Мічурына. Нагадаем, 2 лістапада былы старшыня райвыканкома **Леанід Заяц** перайшоў працаваць у аблвыканкам першым намеснікам старшыні.

У Мінск пераехаў былы старшыня Валожынскага райвыканкома **Валянцін Малішэўскі**. Ён працуе намеснікам міністра прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя. Старшынёй райвыканкома стаў **Іван Маркевіч**. Ён на 15 гадоў маладзейшы за маладзечанскага калегу, нарадзіўся ў Шчучынскім раёне. На Валожыншчыну прыехаў у лютым 1999 года. Апошняе месца працы – першы намеснік старшыні Валожынскага райвыканкома, начальнік упраўлення сельскай гаспадаркі.

**Юрый КАРПІЦКІ, Наталля ШТЭЙНЕР.**

## ДАІ – з «Жыгулямі»

ВАЛОЖЫН. Новыя "Жыгулі" шостай мадэлі папоўнілі аўтапарк раённага аддзела ўнутраных спраў. Узнагарода прыйшла па выніках абласнога агляда-конкурсу на ўзорнае ўтрыманне службовых будынкаў. "Жыгулі" перадалі ў ДАІ. Машына стала чацвёртай па ліку ў гэтай службе.

**Наталля ШТЭЙНЕР.**

## Адмена цягнікоў



19 лютага прыгарадны цягнік Маладзечна-Полацк ідзе толькі да станцыі Крулеўшчына і назад.



## Паўстагоддзя на ферме

МЯДЗЕЛ. За пяцьдзесят год адпрацавалі даяркамі ў сельгаспрадпрыемстве імя Максіма Танка **Яніна Калбун** і **Тацяна Малько**. У суботу для іх наладзілі ўрачыстасць у Сваткаўскім Доме культуры. Дату выбралі невыпадковую – Яніне Калбун якраз 9 лютага споўнілася 70 год. Ад райвыканкома ім уручылі па тэлевізары. Дарэчы, жанчыны яшчэ працуюць на ферме і не абы-як.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

## Надвор'е на выхадныя

Субота, 16 лютага

| Мінск | Вільня |
|---|---|
| -3°С (уначы) 2°С (удзень) | -4°С (уначы) 1°С (удзень) |

Нядзеля, 17 лютага

| Мінск | Вільня |
|---|---|
| -3°С (уначы) 2°С (удзень) | -4°С (уначы) 1°С (удзень) |

# Амерыканцы ў Маладзечне

**МАЛАДЗЕЧНА. З 13 па 22 лютага ў горадзе праходзяць дні амерыканскай культуры. На іх адкрыццё ў цэнтральную бібліятэку імя Багдановіча прыехаў Надзвычайны і паўнамоцны пасол ЗША ў Беларусі Майкл Козак.**

Ён удзельнічаў у адкрыцці інтэрнет-класа і аддзела літаратуры на замежнай мове. Амерыканцы не абмежаваліся пераразаннем стужачкі. Камп'ютэрны клас адкрыўся ў рамках праграмы Цэнтра культуры, інфармацыі і адукацыі пры пасольстве ЗША. Большую частку літаратуры на замежных мовах таксама прывезлі амерыканцы.

Да сустрэчы з заакіянскімі гасцямі рыхтаваліся. Хор дзіцячай музычнай школы выканаў песні на беларускай і англійскай мовах, чым узрушыў пасла. Шчыра ён апладзіраваў танцорам з сярэдняй агульнаадукацыйнай школы мастацтваў.

Майкл Козак падарыў дырэктару гарадской бібліятэчнай сістэмы **Ніне Артышэвіч** кнігу пра Амерыку, а ўзамен ад гарадскіх уладаў атрымаў саламяную лялькy з надпісам "Маладзечна-2002" і буклет пра горад.

Цікава было паслухаць размову пасла з першым намеснікам старшыні гарвыканкома **Яфімам Ідэльчыкам**. Адзін гаварыў на англійскай мове, другі – на рускай, і кожны пра сваё. Але адзін аднаго зразумелі. Пазней, калі адкрылі інтэрнет-клас, да аднаго з камп'ютэраў падышоў Майкл Козак. Ён прысеў на кукішкі і пачаў працаваць з інтэрнетам. Нягледзячы на тое, што побач было крэсла. І яшчэ Майкл Козак запомніўся сваёй галівудскай усмешкай.



Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.

**Пасол ЗША ў Беларусі Майкл Козак, прысеўшы на кукішкі у інтэрнет-класе бібліятэкі імя Багдановіча, вандруе па «сусветным павуцінні».**

У рамках дзён амерыканскай культуры ў бібліятэках і школах горада запланаваны шэраг мерапрыемстваў. Гэта віктарыны, лекцыі, выстаўкі літаратуры, прагляд відэафільмаў на амерыканскую тэматыку.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

### Экспрэс-апытанне віляйчан

# Беларуская мова жывая ці мёртвая?



**Мікалай Гіро, дырэктар СШ №3:**

– Жывая, бо ёсць частка людзей, што на ёй размаўляюць. Чуем беларускую мову па радыё, сустракаем у друку. Не дай бог, каб была мёртвая, бо не будзе мовы – не будзе народу.



**Ганна Ракецкая, працуе на біржы:**

– Жывая. Я, увогуле, люблю, як людзі размаўляюць на ёй, асабліва па тэлевізары (вельмі прыгожа).



**Дыяна Носава, вучаніца вілейскай гімназіі:**

– Беларуская мова жывая. І будзе жыць, калі будуць на ёй размаўляць. А такія людзі ёсць.



**Ігар Мароз, дызайнер-вярстальшчык раённай газеты:**

– Перастане быць жывой, бо галоўным носьбітам з'яўляецца моладзь, а яна не размаўляе на беларускай мове. Мова не мае дзяржаўнай падтрымкі.



**Надзея Новік, інструктар раённага спажывецкага таварыства:**

– Вядома, жывая. Калі чалавек умее размаўляць па-беларуску, то мова прыгожая. А калі не ўмее – то не.

**Апытанне правяла Яўгенія МАНЦЭВІЧ.**

# На зарплату хапае

**МАЛАДЗЕЧНА. З 1 лютага ў 1,5 раза падаражэў праезд у гарадскіх аўтобусах. Цяпер поўны білет каштуе 120 рублёў.**

Пра свае праблемы і планы расказваюць дырэктары самых вялікіх аўтапаркаў рэгіёна: у Маладзечне, Вілейцы і Смаргоні.

Дырэктар Маладзечанскага аўтапарка №4 **Пётр Мамчыц**:

– Сёння мы маем запазычанасць у 70 мільёнаў рублёў. Яшчэ вінаватыя 30 мільёнаў банку за крэдыт. Але зарплату выдаем без затрымак. А на рызіну і рамонт няспраўных аўтобусаў няма грошай. Ніякіх маршрутаў адмяняць не будзем, як і ўводзіць новыя. Гэтыя б утрымаць!

**Мікалай Самайловіч**, дырэктар Смаргонскага аўтапарка №17:

– Нам, як і ў Маладзечне, жывецца нялёгка. Ёсць запазычанасць у 110,3 мільёна рублёў. Са снежня не працуе грузавы транспарт. Пакуль пасажырскія маршруты не адмяняем, але я напісаў ліст у райвыканкам, каб спынілі аўтобусы на гадзіну ночы. Усё адно пасля 22-00 ходзяць пустыя. Вясной пусцім 2 рэйсы на Гродна і 1 у Ваўкавыск. Вось адкрылі маршрут №8 па горадзе, але з-за тэхнічнай неадпаведнасці дарог ДАІ была супраць, таму зноў закрылі. Заўтра (гаварылі 11 лютага) пачнем выдаваць зарплату. Сярэдняя ў аўтапарку за снежань – 132 тысячы рублёў, а ў вадзіцеляў – 170.

Дырэктар Вілейскага аўтапарка №5 **Мікалай Жарнікаў** ацаніў запазычанасць як невялікую, але канкрэтнай лічбы не назваў. Тут таксама маршруты не адмяняюцца. Зарплата выдаецца ў тэрмін і складае 161945 рублёў.

**Вольга ПІЛІПЕНКА.**

■ **КРЫМІНАЛ, ЗДАРЭННІ, ХРОНІКА**

# Гінуць з-за неабачлівасці

**МАЛАДЗЕЧНА. З-за недастатковай бацькоўскай увагі на чыгуначнай станцы Маладзечна магла загінуць пяцігадовая дзяўчынка.**

Яе маці хацела хутчэй заняць месца ў электрычцы на Мінск. Шлях перагарадзіў манёўровы цеплавоз. Жанчына перабегла пуці, але яе дачка засталася на другім баку. Калі перабегла маці, дзяўчынка вырашыла бегчы за ёй. На пероне знаходзіўся старшыня міліцыі **Аляксей Бажко**, які кінуўся за дзяўчынкай і змог выратаваць яе. Да цеплавоза заставалася менш за тры метры.

У студзені на Маладзечанскай чыгунцы смяротна траўміраваныя 3 чалавекі, што на 1 больш, чым за такі ж перыяд летась.

Людзі гінуць з-за ўласнай неасцярожнасці – усе засыналі на рэйках. Гэта 50-гадовая маладзечанка, 26-гадовы жыхар Вілейшчыны і 56-гадовы мужчына з Вязаўца. Апошні працаваў на чыгунцы.

**Юрый КРАЎЧАНКА, старшы інспектар Маладзечанскага аддзела ўнутраных спраў на транспарце.**

# Куранецкая доля

## Палова энергіі, скрадзенай у энерганагляда ў Вілейскім раёне, прыпадае на жыхароў Куранца

1 мільён 170 тысяч рублёў выкладуць са сваёй кішэні злодзеі з Куранца, якія кралі электрычную энергію. Увогуле, у студзені у Вілейскім раёне мясцовым энерганаглядам кожны другі акт аб крадзяжы электраэнергіі складзены на куранчан.

**Франц С.** залез у электралічыльнік, **Валеры Т.** затармазіў дыск электралічыльніка. **Любоў Ч., Аляксандр П., Галіна Ш., Ларыса В., Ядвіга А., Юры А., Генадзь В., Уладзімір К.** таксама знаходзілі спосабы абдурыць, здавалася б, пастаўшчыка электрычнасці. Урэшце ж былі пакараныя самі. За студзень у Вілейскім раёне зафіксавана крадзяжоў прыкладна на 29 тысяч кілават–гадзін. І толькі Куранецкая доля склала там амаль 14 тысяч.

Інспектары энерганагляду разам з работнікамі электрасетак, а часта з прадстаўнікамі міліцыі, рэгулярна праводзяць рэйды-праверкі карыстання электраэнергіяй. Ніводны выезд не застаецца безвыніковым. Інспектары ведаюць адрасы, па якіх пастаянна фіксуецца "знікненне" электрычнасці, ведаюць адрасы, дзе не адзін раз ужо хапалі злодзея за руку, а сітуацыя застаецца ранейшая. Яе можна ахарактарызаваць проста: кралі, крадуць, на жаль, будуць красці.

Мы ў прадмесці Вілейкі – Макаўі. Электраманцёр раёна электрычных сетак **Мікалай Субач** выходзіць з тэлескапічнай "вудай" – спецыяльным прыстасаваннем, каб замераць у лініях электраперадач спажыванне энергіі. У навакольных дамах, як па каманде, адключаюцца электрапрыборы: гаспадары заўважылі "паляўнічых". Нягледзячы на выхадны дзень, у многія дамы не зайсці. Або проста не адчыняюць дзверы, або, хтосьці, прасунуўшыся ў шчылінку, гаворыць: гаспадароў няма, завітайце пазней.

Не злоўлены – не злодзей. У выніку ў Макаўі брыгада зафіксавала толькі адзін выпадак несанкцыянаванага (безлічыльнікавага) падключэння. Чалавек захацеў папіліць дровы, але так, каб на паказчыках лічыльніка гэтае не адбілася. Гук цыркуляркі яго выдаў.



Фота Аляксандры МАНЦЭВІЧА.

**Электраманцёр раёна электрасетак Мікалай Субач стараецца знайсці месца "знікнення" энергіі. Падчас рэйду ў прадмесці Вілейкі Макаўі.**

У той самы дзень у Вілейцы на вуліцы Партызанскай інспектары знайшлі неўлічаную разетку, пашкоджаны электралічыльнік. Гараджанін **С.Т.** заплаціць 92 тысячы рублёў, каб пакрыць урон. Колькі ж на самой справе "прабегла" кілават праз разетку – цяжка сказаць. Не зафіксавана.

Крадзяжы электраэнергіі – спецыфічная рэч. Гэта не мех мукі з калгаснай фермы. Слядоў крадзяжу практычна не застаецца. Заходзяць інспектары ў дом. Сцены сустракаюць цеплынёй, а трубы вадзянога ацяплення аб кацёл – халодныя. Застаецца толькі здагадвацца, што энергія ўсё ж аднекуль паступала.

Старшы інспектар энерганагляду **Яўген Петрыкевіч** бачыць выйсце, напрыклад, у такім прынцыповым рашэнні. Выносіць лічыльнікі вонкі, на вуліцу. А ты, гаспадар, падключайся пасля куды хочаш. Усё адно уся энергія будзе фіксавацца. Так зрабілі ў Латвіі. І крадзяжы энергіі спыніліся адразу. Аднак інспектар сам сабе і апаніруе: але ж лічыльнікі скрадуць...

Пакуль энергія знікае, як вада ў пясок. І следу не застаецца. Так доўга працягвацца не зможа. Перасохне крыніца. І ўсё адно, прыйдзецца наводзіць парадак. Можа, пераносіць лічыльнікі, можа павялічваць штрафы. Закон захавання энергіі – аб'ектыўная дадзенасць. Энергія не бярэцца з пустэчы. Яна толькі пераразмяркоўваецца або пераходзіць у іншы стан. І калі гэта не фіксуецца, не значыць, што застаецца незаўважаным.

**Мікола ГАЙДУК.**

■ **ПЫТАЙЦЕСЯ – АДКАЗВАЕМ**

# Засцерагайцеся падробак

**Васіль Рамановіч** з Маладзечна пытаецца: *"Чаму галоўны ўрач стаматалагічнай паліклінікі выдаў свой загад для ўрачоў тэрапеўтычнага аддзялення, каб яны не карысталіся абязбольвальнымі сродкамі, якія грамадзяне набылі ў аптэках горада?"*

Адказвае галоўны ўрач гэтай паліклінікі **Віктар Шымко**:

– Так. Быў такі загад №114 ад 2001 года. Я прыняў яго, каб пазбегнуць ускладненняў пры абязбольванні і каб ведаць якасць лекаў. Да гэтага трэба ставіцца сур'ёзна, таму што ідзе фальсіфікацыя лекавых прэпаратаў. Звычайна яны закрытыя коркамі, і ў бутэлечках можа быць невядома што.

Пасля ўвядзення такіх лекаў могуць узнікнуць самыя непрадбачаныя сітуацыі, і мы за гэта адказваем. Калі да нас прывозяць лекі, фірма прадастаўляе сертыфікат і іх састаў.

**Вольга ПІЛІПЕНКА.**

# Створаны фонд мацярынства і дзяцінства

**МАЛАДЗЕЧНА. У аўторак дэпутаты райсавета на сваёй пазачарговай сесіі прынялі рашэнне аб стварэнні раённага фонду падтрымкі мацярынства і дзяцінства.**

Намеснік старшыні райвыканкома Наталля Гайковіч сказала, што з-за недахопу бюджэтнага фінансавання могуць сарвацца раённыя мерапрыемствы, напрыклад, праграма "Здароўе".

Крыніцай даходаў стworанага фонду будуць добраахвотныя ахвяраванні ад прыватных асоб, прадпрыемстваў, а таксама грошы, якія будуць зароблены на суботніках, арганізаваных райвыканкомам.

Плануецца, што грошы пойдуць на датацыі школьнага харчавання, павелічэнне дапамогі дзецям-інвалідам і іншыя праграмы ў галінах аховы здароўя і адукацыі.

Размяркоўваць грошы з фонду будзе савет з шасці чалавек.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

## Курсы валют НБ РБ

| | 7 лютага | 14 лютага |
|---|---|---|
| Долар | 1650,00 руб. | 1653,00 руб. |
| Літ | 413,94 руб. | 419,33 руб. |
| Расійскі рубель | 53,69 руб. | 53,60 руб. |
| Злоты | 392,30 руб. | 397,42 руб. |
| ЕЎРА | 1429,64 руб. | 1447,86 руб. |

**"Вулічныя" курсы ў Маладзечне**

| | | |
|---|---|---|
| Долар | 1660 – 1680 руб. | 1660 – 1680 руб. |

## Маладзечна. Цэны ў сераду на рынку

| Прадукты | Цана (руб.) 6.02 | 13.02 |
|---|---|---|
| Курыныя кумпячкі, 1 кг | 2600 | 2600 |
| Кілбаса с/вялен., 1 кг | 9500 | 9200 |
| Сасіскі, 1 кг | 3950 | 3950 |
| Селядзец, 1 кг | 2200 | 1800 |
| Рыс, 1 кг | 650 | 600 |
| Грэчка, 1 кг | 500 | 550 |
| Цукар, 1 кг | 730 | 730 |
| Алей, 1 л | 1550 | 1550 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 1200 | 1000 |
| Маянэз, 200 г | 320 | 320 |
| Кава "Пеле", 100 г | 1800 | 1800 |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 600 | 600 |
| Соус там. «Мінскі», 0,5 л | 600 | 600 |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 600 | 600 |
| Капуста, 1 кг | 550 | 500 |
| Лімоны, 1 кг | 1700 | 1800 |
| Апельсіны, 1 кг | 1500 | 1500 |
| **Сялянскія прадукты** | | |
| Смятана, 1 л | 1400 | 1600 |
| Масла, 1 кг | 3000 | 3400 |
| Тварог, 1 кг | 1500 | 1500 |
| Малако, 1,5 л | 600 | 600 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 1500 | 1600 |
| Бульба, 1 вядро | 2500 | 2500 |
| Морква, 1 кг | 500 | 800 |
| Яблыкі, 1 кг | 550 | 500 |

■ **«РГ»-СТАТЫСТЫКА**

# Беспрацоўе ў рэгіёне

| | Колькасць беспрацоўных | Узровень беспрацоўя |
|---|---|---|
| Маладзечна | 1597 (+76) чал. | 2,63% |
| Маладзечанскі раён | 317 (+5) чал. | 1,27% |
| Астравецкі раён | 374 (+7) чал. | 2,56% |
| Ашмянскі раён | 166 (-) чал. | 0,9% |
| Валожынскі раён | звестак не прадаставілі | |
| Мядзельскі раён | 300 (+36) чал. | 1,6% |
| Смаргонскі раён | 1224 (+103) чал. | 3,65% |

У дужках паказаныя змяненні ў параўнанні са студзенем.

**Вольга ПІЛІПЕНКА.**

■ **«РГ»-СТАТЫСТЫКА**

# Больш вінаватыя вадзіцелі

**СМАРГОНЬ. Летась у раёне зарэгістравана 37 дарожна-транспартных здарэнняў (ДТЗ).**

Гэта на 2 меней, чым у 2000 годзе. Асноўнымі вінаўнікамі былі вадзіцелі. З-за іх адбылося 30 ДТЗ, у якіх загінула 13 і паранена 38 чалавек. Усе парушэнні дапусцілі вадзіцелі індывідуальных транспартных сродкаў, службовы аўтатранспарт парушэнняў з цяжкімі наступствамі не здзяйсняў. Па віне пешаходаў адбылося 7 ДТЗ, у якіх загінула 2 і паранена 5 чалавек.

Да адміністрацыйнай адказнасці за парушэнне правілаў дарожнага руху прыцягнута 21185 чалавек (у 2000 годзе - 26837). За кіраванне аўтатранспартам у нецвярозым стане пакарана 498 вадзіцеляў (477). У тым ліку 138 чалавек пазбавілі вадзіцельскіх правоў (135).

# Злачынстваў стала менш

**СМАРГОНЬ. Колькасць зарэгістраваных злачынстваў за 2001 год зменшылася з 542 да 396, або на 146 (26,9%). Раскрывальнасць склала 83,3%. Пры гэтым раскрытыя ўсе такія злачынствы, як разбоі, грабяжы, махлярствы, угоны аўтатранспарту.**

Не раскрытае адно забойства (з 7 здзейсненых). Гэта забойства пенсіянераў (мужа і жонкі) у вёсцы Валейкавічы. Упершыню за 5 год раскрывальнасць на сяле ніжэйшая, чым у горадзе.

Усяго здзейснена 139 крадзяжоў, у тым ліку, 18 крадзяжоў дзяржуласнасці. Раскрыта 22,2% крадзяжоў дзяржуласнасці, крадзяжоў асабістай маёмасці – 71,9%.

У здзяйсненні злачынстваў удзельнічала 290 чалавек, сярод якіх 44 жанчыны, 43 непаўналетнія. У момант здзяйснення злачынстваў 35,5% былі п'яныя.

Да адміністрацыйнай адказнасці прыцягнута ў 2001 годзе 28979 чалавек, у 2000 – 34938 чалавек.

**Мікіта ЛІСТАПАД.**

# Месяц і расліны

**Уплыў Месяца на расліны людзі заўважылі з даўніх часоў. Аднак нашы продкі звярталі ўвагу толькі на фазы зямнога спадарожніка.**

Калі Месяц нараджаецца і расце да поўнага памеру (ад маладзіка да поўні), яны саджалі і сеялі тыя культуры, якія ствараюць ураджай над зямлёй. Заўважалі станоўчы ўплыў у гэтай фазе Месяца і паліву раслін.

Калі ж Месяц змяншаецца (ад поўні да маладзіка) – сеялі і саджалі расліны, якія фарміруюць ураджай у зямлі, – караняплоды, бульбу і інш. Быў заўважаны дрэнны ўплыў Месяца на расліны пры яго ўзыходжанні і змене фаз.

**У апошнія гады астролагі перадавых краін свету знайшлі, што на рост раслін і іх ураджайнасць уплываюць не толькі фазы Месяца, але і размяшчэння яго ў прасторы – у задыякальным коле.**

З пераходам Месяца ў чарговы знак задыяка мяняюцца яго характарыстыка і ўплыў на пэўныя працэсы росту і развіцця раслін. Гэтым і тлумачыцца адрозненне ў росце раслін, пасаджаных пры аднолькавых зямных умовах, але ў розныя дні.

Гэты ўплыў узмацняе або аслабляе дзеянне фаз Месяца ў залежнасці ад прадуктыўнасці задыякальнага знака, праз які праходзіць месяц.

**Шматгадовымі назіраннямі і досведам людзей установлена, што 5 з 12 знакаў з'яўляюцца прадуктыўнымі (Цялец, Рак, Шалі, Скарпіён, Рыбы) і шэсць – непрадуктыўнымі (Авен, Леў, Стралец, Вадалей, Блізняты, Дзева). Знакі Вадалея і Льва называюць яшчэ і бясплоднымі, і знак Казярога – умерана прадуктыўным.**

У прапануемым календары ўлічаны ўплыў на рост і ураджайнасць раслін фаз Месяца і праходжання яго па знаках задыяка, а часткова і сатанінскіх дзён у розныя поры года ў адкрытым і закрытым грунце. Маецца на ўвазе сяўба (пасадка) не толькі на агародзе, але і ў цяпліцах, што ацяпляюцца, на падваконнях, на балконе, у падвале, пад плёнкай.

**Досвед садаводаў і агароднікаў паказаў, што, калі сяўба і пасадка праведзеныя ў спрыяльныя дні, ураджай апрацоўваемых культур і яго якасць павышаюцца на 15–20%, а калі своечасова і правільна выкананыя ўсе прыёмы догляду за раслінамі, то аддача значна вышэйшая.**

Важна пазбягаць пасадкі і сяўбы ў неспрыяльныя дні, у дні змены фаз Месяца, у часы яго ўзыходжання, а ў астатнія дні тэрміны сяўбы і пасадкі можна пасоўваць з улікам фаз Месяца, стану надвор'я і прызначэння прадукцыі (для хуткага спажывання або працяглага захоўвання).

Карысна памятаць і тое, што прыператамленні, дрэнным фізічным і духоўным стане не рэкамендуецца сеяць і саджаць расліны – яны будуць дрэнна расці і дадуць нізкі ўраджай. У такія дні лепш займацца лёгкай уборкай і праполкай, якія не патрабуюць вялікіх затрат энергіі.

## Праходжанне Месяцам знакаў задыяка ў 2002 годзе. Фазы Месяца (час мінскі)

| Знак задыяка | Люты | Сакавік | Красавік | Май | Чэрвень | Ліпень | Жнівень | Верасень | Кастрычнік | Лістапад | Снежань |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| **Авен** | 15/11.22 | 14/17.35 | 11/0.42 | 8/7.23 | 4/14.51 | 1/22.50<br>29/6.40 | 25/13.50 | 21/20.15 | 19/2.15 | 15/7.40 | 12/14.50 |
| **Цялец** | 18/0.01 | 17/6.02 | 13/12.55 | 10/19.31 | 7/3.08 | 4/11.17<br>31/19.18 | 28/2.30 | 24/8.50 | 21/14.55 | 17/20.29 | 15/3.40 |
| **Блізняты** | 20/10.50 | 19/17.21 | 16/0.01 | 13/6.05 | 9/13.30 | 6/22.01 | 3/6.48<br>30/14.45 | 26/21.25 | 24/3.20 | 20/8.30 | 17/15.40 |
| **Рак** | 22/18.17 | 22/2.07 | 18/9.01 | 15/14.34 | 11/21.15 | 9/5.37 | 5/15.01 | 2/0.15<br>29/8.10 | 26/14.10 | 22/18.50 | 20/1.30 |
| **Леў** | 24/21.37 | 24/6.14 | 20/15.21 | 17/20.51 | 14/2.40 | 11/10.08 | 7/19.30 | 4/5.35 | 1/14.50<br>28/21.20 | 25/3.05 | 22/8.50 |
| **Дзева** | 26/21.48 | 26/8.45 | 22/18.35 | 20/1.02 | 16/6.25 | 13/12.41 | 9/21.05 | 6/7.15 | 3/18.00<br>31/2.05 | 27/8.40 | 24/14.04 |
| **Шалі** | 1/10.45<br>28/21.48 | 28/8.05 | 24/19.23 | 22/3.20 | 18/9.12 | 15/14.40 | 11/21.40 | 8/6.55 | 5/17.50 | 2/3.29<br>29/11.50 | 26/17.50 |
| **Скарпіён** | 3/12.36 | 2/20.51<br>30/7.21 | 26/19.15 | 24/4.40 | 20/11.43 | 17/17.14 | 14/0.00 | 10/6.50 | 7/16.55 | 4/3.10 | 1/13.15<br>28/20.40 |
| **Стралец** | 5/17.21 | 5/0.01 | 1/9.48<br>28/20.14 | 26/6.21 | 22/14.43 | 19/21.03 | 16/2.25 | 12/8.45 | 9/17.20 | 6/2.50 | 3/13.50<br>31/22.30 |
| **Казярог** | 8/1.10 | 7/6.49 | 3/14.58 | 1/0.04<br>28/9.55 | 24/19.01 | 22/2.25 | 18/8.15 | 14/13.50 | 11/20.45 | 8/4.40 | 5/15.40 |
| **Вадалей** | 10/11.16 | 9/16.57 | 6/0.08 | 3/7.45<br>30/16.35 | 27/1.37 | 24/9.40 | 20/16.18 | 16/21.50 | 14/3.50 | 10/10.20 | 7/19.55 |
| **Рыбы** | 12/22.54 | 12/4.57 | 8/11.59 | 5/18.47 | 2/2.38<br>29/11.01 | 26/19.05 | 23/2.15 | 19/8.20 | 16/14.05 | 12/19.40 | 10/3.45 |
| **Маладзік** | 12/9.42 | 14/4.04 | 12/22.21 | 12/13.46 | 11/2.48 | 10/13.27 | 8/22.16 | 7/6.11 | 6/14.19 | 4/22.36 | 4/9.35 |
| **Першая чвэрць** | 20/14.03 | 22/4.29 | 20/15.49 | 19/22.43 | 18/3.30 | 17/7.48 | 15/13.13 | 13/21.09 | 13/8.34 | 11/22.53 | 11/17.50 |
| **Поўня** | 27/11.18 | 28/20.26 | 27/6.01 | 26/14.52 | 25/0.43 | 24/12.08 | 23/1.29 | 21/17.00 | 21/10.21 | 20/3.35 | 19/21.11 |
| **Апошняя чвэрць** | 4/17.34 | 6/3.26 | 4/18.30 | 4/10.17 | 3/3.06 | 2/20.20 | 1/13.23<br>31/5.32 | 29/20.09 | 29/7.29 | 27/17.47 | 27/2.32 |



**Знае толк у садаводстве і агародніцтве маладзечанец Аляксандр Салагуб. Вінаград, парэчкі, яблынькі заўсёды прыносяць радасць гаспадару. А бульба, якая вырасла ў Ласях пад Маладзечнам, уражвае кожнага.**

Фота з архіва «РГ».

## Пра сатанінскія дні

**У некаторых літаратурных крыніцах ёсць дадзеныя, што сатанінскія дні яшчэ больш за 100 год таму називалі "злымі" і публікавалі іх даты толькі ў так званых "чорных кнігах". Кнігі гэтыя заносілі ў асаблівыя спісы забароненых твораў, якія асуджаліся царквой.**

З дапамогай такіх кніг для кожнага месяца разлічвалі 2–3 дні. У гэтыя дні забаранялі займацца сур'ёзнымі і адказнымі справамі, рэкамендавалі быць асабліва пільнымі і асцярожнымі.

Цяпер жа сатанінскія дні разлічваюць пры дапамозе спецыяльных астралагічных даведнікаў. Аднак адмоўнае ўздзеянне касмічных сіл і прыроды на чалавека і расліны ў такія дні навукай яшчэ да канца не разгадана.

Як пацвярджаюць назіранні і апытанні людзей, асабліва дрэнныя вынікі атрымліваюцца, калі сатанінскія дні прыходзяцца на даты, абазначаныя ў Месяцавым календары як неспрыяльныя для сяўбы і пасадкі. У гэтыя дні кепска не толькі раслінам, але і людзям. Адчуваюцца фізічныя недамаганні, духоўная стомленасць. У такія дні лепш адпачываць.

І яшчэ адна парада. Сатанінскія дні лёгка можна "абысці". Яны пачынаюцца, як правіла, з 11–14 гадзін і заканчваюцца пасля абеду на наступны дзень. Так што насенне сеяць можна раніцай перад пачаткам сатанінскага дня, а пасадку дрэў, кустоў, караняплодаў рабіць на наступны дзень вечарам пасля заканчэння сатанінскага дня.

Калі ж сатанінскі дзень пачынаецца ноччу або раніцай, то на наступны дзень ён заканчваецца прыкладна ў той жа час. Тады сяўбу і пасадку можна праводзіць пасля абеду, калі дзень добры па іншых паказчыках.

### Прыкладныя даты сатанінскіх дзён (па Месяцы) у 2002 годзе (час мінскі)

| Месяц | 23-і месяцавы дзень | 29-ы месяцавы дзень | 9-ы месяцавы дзень | 15-ы месяцавы дзень |
|---|---|---|---|---|
| **Люты** | | 11/8.23–12/8.47 | 20/10.40–21/11.05 | 26/16.29–27/18.04 |
| **Сакавік** | 7/4.00–8/4.05 | 13/7.30–14/7.42 | 21/9.32–22/10.14 | 27/16.59–28/18.32 |
| **Красавік** | 5/4.50–6/5.31 | 11/7.03–12/7.15 | 20/11.05–21/12.24 | 26/20.00–27/21.31 |
| **Май** | 5/4.40–6/4.46 | 11/5.45–12/5.58 | 20/13.02–21/14.31 | 26/21.55–27/23.20 |
| **Чэрвень** | 4/3.21–5/3.32 | 10/4.40–11/5.08 | 18/13.44–19/15.10 | 24/22.10–25/4.57 |
| **Ліпень** | 3/0.45–4/0.47 | 9/3.40–10/4.30 | 18/15.50–19/17.10 | 24/22.35–25/22.50 |
| **Жнівень** | 2/0.30–3/0.45<br>30/23.06–31/23.30 | 8/4.36–9/0.15 | 16/16.25–17/17.45 | 22/21.25–23/21.40 |
| **Верасень** | 29/22.43–30/23.42 | 6/5.03–7/6.40 | 15/17.50–16/18.40 | 21/20.10–22/20.23 |
| **Кастрычнік** | 28/21.40–29/23.00 | 6/7.10–6/16.10 | 14/17.10–15/17.40 | 20/18.40–21/18.50 |
| **Лістапад** | 26/22.10–27/23.40 | 4/6.40–4/22.40 | 12/15.10–13/8.40 | 18/16.12–19/16.25 |
| **Снежань** | 27/0.17–27/24.00 | 3/7.10–4/8.45 | 12/13.50–13/14.00 | 18/15.10–19/15.35 |

## Каротка пра знакі задыяка

**Уплыў месяцавых знакаў на садовыя і агародныя культуры ўмоўна называюць іх агратэхнічнай характарыстыкай. Пры дапамозе гэтай характарыстыкі і інфармацыі аб праходжанні Месяцам знакаў задыяка кожны можа ўдасканальваць Месяцавы каляндар па сваім жаданні.**

Авен – сонечны знак, кіруемы Марсам. Падыходзіць для пасадкі усяго, што расце хутка і адразу ідзе ў ежу: асабліва салаты, шпінату, шчаўя, памідораў, кустовай фасолі. Пры адпаведнай фазе Месяца можна садзіць цыбулю, часнок, перац, убіраць садавіну і караняплоды.

Цялец кіруецца Венерай. Вельмі прадуктыўны знак для земляробаў. Падыходзіць для пасадкі ўсяго, што павінна мець добрую якасць і стойкасць пры захоўванні. Кветкі валодаюць павышанай трываласцю. Спрыяльны для пасадкі караняплодаў (асабліва бульбы), цыбульных раслін, бабовых, капусты, салаты, радысу, рэпы, бручкі, дрэў і кустоў.

Блізняты кіруюцца Меркурыем і Празерпінай. Знак непрадуктыўны для пасадкі і перасадкі раслін, акрамя клубніц, суніц, павойных культур, руж і хрызантэм. Добры для культывацыі пасеваў, пасадкі лесу і садаахоўных кустоў, збору, клубняў і караняплодаў, зразання кветак, абрэзкі дрэў і кустоў, прыгатавання ўгнаенняў.

Рак – самы прадуктыўны знак. Асабліва падыходзіць для пасадкі нізкарослых раслін (бахчавыя культуры, радыс, памідоры, буракі, цыбуля, морква, гарбуз, бульба, ружы, гіяцынты, браткі). Пасадка, перасадка і прышчэпліванне даюць добрыя вынікі. Сабраны ўраджай доўга не захоўваецца. Яго лепш ужыць адразу. Час для прышчэплівання і палівання пры адпаведнай фазе Месяца, нарыхтоўкі лекавых траў.

Леў неспрыяльны для пасадкі. Высаджваць дрэвы можна толькі пры багатым паліве. Лепш заняцца праполкай, высяканнем дрэў, зборам садавіны і караняплодаў.

Дзева – малапрадуктыўны знак. Добра растуць толькі дэкаратыўныя расліны (астры, крокусы, нарцысы, вяргіні, гладыёлусы, півоні). Падыходзіць для знішчэння пустазелля, праполкі.

Шалі – прадуктыўны і пладавіты знак, амаль як Цялец. Можна саджаць усё пры адпаведнай фазе Месяца, убіраць клубні на насенне, для доўгага захоўвання.

Скарпіён – прадуктыўны, блізкі да Рака. Асабліва ўдаюцца расліны з вострым смакам і лекавыя, памідоры, кветкі. Нельга выкопваць бульбу, прызначаную для захоўвання.

Стралец – малапрадуктыўны, але не для ўсіх культур. Высяваюць цыбулю і травы, саджаюць часнок, бульбу, перац і радыс. Асабліва падыходзіць для высокіх і павойных раслін, збору насення маку, сланечніка, шчаўя, кмену. Час збору садавіны і караняплодаў.

Казярог – такой самай прадуктыўнасці, як і Цялец, ён вылучаецца сухасцю і тэмпамі росту каранёў. Дрэвам надае доўгае жыццё і холадаўстойлівасць. Падыходзіць для пасадкі цыбулі і падзімняй сяўбы гародніны (пры ўбываючым Месяцы). Можна саджаць бульбу, караняплоды, капусту, цыбулю, агрэст, парэчкі, сеяць бабовыя, радыс. Кветкам надае трываласць.

Вадалей непрыгодны для пасадкі. Спрыяльны для культывацыі, знішчэння шкоднікаў, збору садавіны і караняплодаў.

Рыбы – прадуктыўны знак, раўнацэнны Раку. Добры для пасадкі гародніны і ягад, асабліва клубніц і малін. Добра сеяць салату, пятрушку, шпінат, агуркі, радыс, гарбузы. Захоўваемасць сабранага невысокая.

